Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 720.
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 23 снежня 1998 г. № 138 (530) Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Новая ініцыятыва БНФ

*У адказ на планы Лукашэнкі*

**Народны Фронт рыхтуе новую ініцыятыву ў адказ на запланаваную Лукашэнкам чарговую спробу далучэння Беларусі да Расіі.**

Як паведаміў нам адзін з кіраўнікоў БНФ Лявон Баршчэўскі, у выпадку рэалізацыі планаў Лукашэнкі, Народны Фронт распачне збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму па пытанні захавання незалежнасці Беларусі і інтэграцыі РБ у Еўрапейскі саюз. Дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы будуць падавацца не ў прэзідэнцкую выбарчую камісію, а ў легітымны Цэнтрвыбаркам.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Зноў да Ельцына

У канцы гэтага тыдня Аляксандр Лукашэнка збіраецца зноў наведаць Маскву і сустрэцца з расійскім прэзідэнтам Барысам Ельцыным.

**Б.П.**

## «Мінімалка» – 500 тысяч?

**Бліжэйшымі днямі чакаецца рашэнне Савета міністраў Беларусі аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы да 500 тысяч рублёў.**

Нагадаем, што папярэдняе павышэнне памеру мінімальнай зарплаты адбылося 1 кастрычніка — з 250 да 350 тысяч рублёў.

*БелаПАН*

## 20 літраў «на рыла»

**Перабоі з бензінам, якія даўно «прапісаліся» ў правінцыі, перакінуліся і на сталіцу Беларусі. Зараз у Мінску ўстаноўлена норма продажу бензіну — 20 літраў у адзін бак.**

Самы папулярны сярод аўтааматараў 92-гі бензін, які каштаваў прыкладна 36 тысяч за літр, зараз прадаецца ў сярэднім за 45 тысяч рублёў, а самы прэстыжны 95-ы падняўся ажно да 70 тысяч за адзін літр. Чакаецца, што да Новага года бензін падаражае яшчэ.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Серада – цукровы дзень

**У Магілёве цукар і масла прадаецца цяпер толькі ў сераду пасля абеда.**

Так вырашыў надзвычайны абласны штаб. Мэта, відаць, у тым, каб чэргі стаялі не штодня, а толькі раз на тыдзень. Тады можна будзе паведаміць наверх, што ў Магілёве чэргаў «практычна няма».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Пайку ўрэзалі

**У крамах Гродзеншчыны па рашэнні ўладаў сталі даваць на чалавека замест 300 грамаў масла толькі 200.**

Аднак гэтая мера не вырашае праблему дэфіцыту, масла па-ранейшаму цяжка купіць. Гандлёвыя начальнікі тлумачаць гэта «ажыятажным попытам». Яны сцвярджаюць, што за першыя 10 дзён снежня толькі ў Гродне было прададзена 50 тонаў масла, што на 14 болей, чымсьці за такі час летась.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Назіральнікі АБСЕ пайшлі па турмах

**На мінулым тыдні кіраўнік групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік наведаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава.**

16 снежня спадар Вік сустрэўся з дэпутатам А.Клімавым, які ўжо адзінаццаты месяц знаходзіцца ў мінскім следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Наступным днём кіраўнік групы АБСЕ пагутарыў з дэпутатам Уладзімірам Кудзінавым і актывістам Маладога Фронту Аляксеем Шыдлоўскім, якія адбываюць пакаранне ў мінскай калоніі. Тым часам намеснік кіраўніка групы АБСЕ спадар Кляйнер наведаў Бабруйскі следчы ізалятар, дзе сустрэўся з Васілём Старавойтавым.

У прадстаўніцтве АБСЕ нам сказалі, што падобныя сустрэчы і візіты ў папраўна-працоўныя ўстановы Беларусі «з'яўляюцца часткай работы кансультацыйна-назіральнай групы». Нам не ўдалося даведацца пра змест размовы са зняволенымі дэпутатамі, паколькі пасла Віка цяпер няма ў Беларусі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**




*Дзецям Андрэя Клімава давялося адзначаць дзень нараджэння бацькі каля турмы, — спатканне ім не дазволілі.*

## Дэпутацкая салідарнасць

**Шэсць расійскіх дэпутатаў на чале з Канстанцінам Баравым далучыліся да акцыі «Парламентарыі Еўропы за свабоду А.Клімава і У.Кудзінава».**

Такім чынам, у абарону зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі ўжо выказаліся парламентарыі 19 еўрапейскіх краінаў.

Да канца гэтага года арганізатары акцыі плануюць сабраць 500 подпісаў у абарону сваіх калег.

*БелаПАН*

## Паўлу Бурэ пішуць з Мінска

**Як паведаміла прэс-служба «Хартыі-97», жонкі і маці беларускіх палітзняволеных звярнуліся з лістом да вядомага расійскага хакеіста Паўла Бурэ.**

*«Нашыя дзеці і мужы сядзяць у турме толькі за тое, што не пабаяліся выступіць супраць А.Лукашэнкі... Тым часам Вы публічна сустракаецеся з беларускім прэзідэнтам і гэтым самым аказваеце падтрымку грубаму, некампетэнтнаму кіраўніку, які давёў краіну да ганьбы, а нас — да слёз і гора»,* — гаворыцца ў лісце, які падпісалі маці Андрэя Клімава і ягоная жонка, маці Аляксея Шыдлоўскага, жонка Уладзіміра Кудзінава.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Чыгір ставіць дыягназ

**Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір выступіў на з'ездзе Беларускай сялянскай партыі, які праходзіў 20 снежня ў Мінску**

Гаворачы аб магчымай беларуска-расійскай інтэграцыі, М.Чыгір заўважыў, што сёння Расія і Беларусь *«настолькі хворыя пацыенты, што іх размяшчэнне ў адной палаце яшчэ больш аслабіць абодва дзяржаўныя арганізмы». «Мы павінны кожны сам па сабе выходзіць з крызісу, не забываючы пра нармальныя эканамічныя ўзаемаадносіны»,* — падкрэсліў М.Чыгір. Па яго словах, *«рашэнне вылучыць сваю кандыдатуру на чарговых прэзідэнцкіх выбарах звязана з прапановай паважаных у Беларусі людзей, якія абяцалі мне ўсялякую падтрымку».*

*БелаПАН*

## «Нашу Ніву» апраўдалі

**Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі задаволіў учора іск рэдакцыі газеты «Наша Ніва» супраць Дзяржаўнага камітэта па друку.**

Суддзя Ірына Петухова прызнала незаконным папярэджанне, вынесенае газеце ведамствам М.Падгайнага. На думку суда, правапіс, якім карыстаецца «НН», не з'яўляецца парушэннем агульнапрынятых нормаў мовы.

Судовае паседжанне цягнулася больш 4 месяцаў, адбылося некалькі мовазнаўчых экспертызаў, якія далі заключэнне, што выкарыстанне дарэформеннага правапісу («тарашкевіцы») не можа лічыцца парушэннем закона.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Камерсант спаліў сябе

**Генеральны дырэктар прыватнага прадпрыемства «Віка» 41-гадовы Б. абліў сябе бензінам і падпаліў.**

Гэта адбылося ў панядзелак, 21 снежня, каля 7.30 раніцы ў Мінску на вул. Адзінцова. Ад атрыманых апёкаў чалавек памёр на месцы.

Як паведамілі нам у мінскай міліцыі, былая жонка Б. сцвярджае, што той шмат гадоў знаходзіўся на ўліку ў псіха-неўралагічным дыспансеры і раней ужо неаднаразова спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Адзіны сведкай трагедыі была вартаўніца дзіцячага дома, які знаходзіцца непадалёк. Расследаваннем гэтага выпадку займаецца пракуратура Фрунзенскага раёна Мінска.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## «Тэрарысту» мала плацілі

**Больш за 5 гадзінаў не працаваў буйны магілёўскі завод «Трансмаш». Прычына не ў забастоўцы — завод спыніў невядомы «тэрарыст».**

З раніцы ён патэлефанаваў на прахадную і сказаў, што на заводзе закладзеная міна. Мужчына запатрабаваў, каб адміністрацыя павысіла ўсім зарплату, інакш ад прадпрыемства застануцца руіны. Словы тэлефоннага тэрарыста былі запісаны на магнітафонную стужку. У канцы працоўнай змены яго «вылічылі». Гэта быў 35-гадовы рабочы завода. Ён атрымліваў каля 6 мільёнаў рублёў у месяц. Свой учынак ён патлумачыў цяжкім матэрыяльным становішчам і неабходнасцю карміць сям'ю. Цяпер яму пагражае турэмнае зняволенне да 5 гадоў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*Гэты чалавек хацеў купіць яйкі без чаргі. Здымак зроблены ў Мінску на Партызанскім праспекце.*

# Восем блізнятаў

**Упершыню ў свеце жанчына нарадзіла адразу восем дзяцей. Гэта адбылося ў Злучаных Штатах.**

У мінулую нядзелю, 20 снежня, жыхарка Х'юстана Нкем Чукву нарадзіла 2 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. Першае дзіця, дзяўчынка, з'явілася на свет раней — яшчэ 8 снежня.

Усе восем дзяцей застаюцца ў крытычным стане, але, па словах дактароў, пагаршэння пакуль не назіраецца. Некаторыя з іх важаць меней за 400 грамаў. Спецыялісты кажуць, што шанцы кожнага дзіцяці выжыць складаюць не меней за 85%. Але як мінімум першыя два месяцы свайго жыцця немаўляты будуць вымушаныя правесці ў шпіталі.

Бацькі блізнятаў, Айк і Нкем Чукву, нарадзіліся ў Нігерыі, а потым пераехалі ў ЗША. На працягу некалькіх гадоў у Айка і Нкем не было дзяцей, таму Нкем пачала прымаць спецыяльныя лекавыя прэпараты, каб зацяжарыць. Натуральна, што ніхто з іх не чакаў такога станоўчага выніку.

Як сцвярджае Кніга рэкордаў Гінэса, больш за ўсё дзяцей за адзін раз нарадзіла жанчына ў Сіднеі (Аўстралія) ў 1971 годзе — дзевяць хлопчыкаў і дзяўчынак. Але ўсе яны неўзабаве памерлі.

За апошнія 13 гадоў былі зарэгістраваныя тры выпадкі, калі жанчына нараджала восем блізнятаў, але большасць з іх паміралі ў першыя ж дні.

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Наступны нумар газеты НАВІНЫ выйдзе ў сераду, 30 снежня**

*Выбары*

# Прэзідэнт паставіў кропку у спрэчках апазіцыі

**Аб'яднаная грамадзянская партыя выступіла з пратэстам наконт прынятага прэзідэнцкім парламентам закона аб выбарах у мясцовыя Саветы. Беларускія лібералы абураныя тым, што закон забараняе ўдзел у выбарах асобам, якія прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасці.**

Як вядома, гэтая норма была ўведзеная ў закон па прапанове прэзідэнта, які хоча такім чынам адхіліць ад удзелу ў выбарах значную колькасць сваіх палітычных апанентаў. І рабіць гэта будзе нескладана, бо амаль усе апазіцыйныя палітыкі прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасці за ўдзел у акцыях пратэсту.

Кіраўніцтва АГП лічыць, што гэтае палажэнне закона супярэчыць як мінімум тром артыкулам беларускай Канстытуцыі, а таксама нормам міжнароднага права. Апазіцыянеры не збіраюцца пагаджацца з такім законам і будуць настойваць на адмене антыканстытуцыйнага пункта. Па словах намесніка старшыні АГП Аляксандра Дабравольскага, *«калі гэты артыкул закона застанецца незаўважаным беларускай і міжнароднай грамадскасцю, няма сумнення, што ён будзе прадубліраваны ў законах аб выбарах парламента і прэзідэнта».*

Аналагічнае меркаванне выказаў і лідэр Сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Мікола Статкевіч. Аднак ён не выключае, што некаторыя апазіцыйныя палітыкі ўсё ж змогуць удзельнічаць у выбарах. Па словах Статкевіча, адміністрацыя судзімасць, згодна з нашым заканадаўствам, здымаецца з чалавека, калі на працягу года ён не трапляў пад суд. *«Народная Грамада рыхтуецца да выбараў згодна з пастановай ЦК, але канчатковае рашэнне аб удзеле ці няўдзеле нашых кандыдатаў будзе прынятае толькі напярэдадні выбараў»,* — сказаў лідэр сацыял-дэмакратаў.

Тым часам Народны Фронт наконт выбараў вызначыўся адназначна. Як паведаміў нам адзін з лідэраў БНФ Лявон Баршчэўскі, Народны Фронт ва ўмовах дыктатуры на выбары не пойдзе. Аляксандр Лукашэнка, на думку сп.Баршчэўскага, ужо дайшоў да таго, што не чытае сваёй жа канстытуцыі 1996 года. Бо нават прэзідэнцкі варыянт асноўнага закона гарантуе права кожнаму грамадзяніну Беларусі абіраць і быць абраным. *«Відавочна, што Лукашэнка баіцца апазіцыі, таму ён і вырашыў адсекчы ад удзелу ў выбарах фактычна ўсіх непажаданых кандыдатаў»,* — сказаў Лявон Баршчэўскі.

Разам з тым, у прынцыпе недэмакратычнага выбарчага закона ёсць і пазітыўны момант. На думку лідэра БНФ, гэты факт прымусіць больш рэальна глядзець на рэчы тых прадстаўнікоў апазіцыі, якія раней хацелі ўдзельнічаць у выбарах.

*«Сапраўды, сярод дэмакратаў былі вялікія спрэчкі наконт удзелу ў выбарах, аднак праблему вырашыў сам Лукашэнка»,* — зазначыў кіраўнік Грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч. Цяпер усе асноўныя кандыдаты ад дэмакратычных партыяў пазбаўленыя магчымасці балатавацца. Па словах Багданкевіча, ягоная партыя плануе ў бліжэйшы час правесці кансультацыі з Народным Фронтам і сацыял-дэмакратамі адносна далейшай палітычнай стратэгіі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# «Герой дня» і «супердэмакрат»

**П**АДЧАС свайго апошняга візіту ў Маскву беларускі прэзідэнт стаў жаданым госцем на ўсіх трох расійскіх тэлеканалах. Ад Лукашэнкі дасталося ўсім. На ОРТ ён лаяў амерыканцаў за тое, што пачалі бамбіць Садама Хусейна. На канале РТР беларускі «бацька» прайшоўся ўжо па расіянах, але не па ўсіх, а толькі па асобах габрэйскай нацыянальнасці. Аказваецца, Яўлінскі, Нямцоў, Кірыенка, Чубайс, Гайдар таксама габрэі, Рыгоравіч лічыць, што ўсе яны ў выпадку чаго збягуць з Расіі за адну ноч, а расплачвацца будуць звычайныя людзі.



Крытычна выказаўся беларускі прэзідэнт і пра левую расійскую апазіцыю. Маўляў, на словах яны выступаюць за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адзіную дзяржаву. *«Чаму ж яны цяпер, перад выбарамі, сціхлі? А таму, што іх хвалюе тое самае, што і Чубайса з Гайдарам — раптам Лукашэнка стане прэзідэнтам».*

Але самымі неверагоднымі былі заявы Рыгоравіча на канале НТВ у перадачы «Герой дня». Беларускаму тэлегледачу было што паслухаць ад свайго прэзідэнта і параўнаць з рэчаіснасцю.

Адказваючы на пытанне пра дэфіцыт прадуктаў, Лукашэнка прызнаў, што ёсць *«напружаная сітуацыя»*, але толькі па двух-трох відах харчавання. Разам з тым прэзідэнт заявіў, што *«прадуктаў хапае, ніхто сёння не пакрыўджаны, ніхто з голаду не памёр і ад холаду не замёрз».* Вядучая праграмы запыталася пра чэргі ды карткі, на што Рыгоравіч адказаў: *«Няма ў нас ніякіх картак, абсалютна ніякіх»*, а пра чэргі сціпла заўважыў, што яны *«часам ёсць»*, але *«ўжо знікаюць».*

Прычыны, з-за якіх узніклі гэтыя праблемы, па словах Лукашэнкі, трэба шукаць у Расіі. Па-першае, Беларусь *«страшэнна пацярпела»* з-за расійскага крызісу, бо яна *«адзіная, хто прывязаў сваю валюту не да долара ці маркі, а да расійскага рубля».* Навошта тады было прывязвацца да расійскіх грошай, Лукашэнка не патлумачыў. Але прычым тут дэфіцыт яек і масла ў беларускіх крамах? І тады Лукашэнка выклаў свой любімы аргумент пра *«рознага роду чаўнакоў»*, якія скупляюць гэты тавар, вязуць у Расію і перапрадаюць. *«Каб не даваць ім магчымасць незаслужана нажывацца, мы вымушаныя гэтыя патокі цэнтралізаваць і самі іх пастаўляем»,* — заявіў Лукашэнка. Па ягоных словах, у нас на складах сканцэнтравана тавараў на 300 мільёнаў долараў. Але яны ляжалі, бо *«цэны не былі ўзгодненыя»*. Цяпер, маўляў, цэны ўзгадніліі *«заўтра гэтыя тавары і прадукты будуць перакінутыя ў Расію»*, — паведаміў Лукашэнка.

На развітанне Рыгоравіч зрабіў яшчэ некалькі прызнанняў, якія ставяць яго на адну дошку з лепшымі гумарыстамі свету. Напрыклад, калі вядучая праграмы ветліва пацікавілася, хто ён па сваім палітычным светапоглядзе, Лукашэнка, не міргнуўшы вокам, адказаў: *«Я супердэмакрат».*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Шчукін супраць мышэй

**Намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка і старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесь Бяляцкі, якія правялі 10 сутак пад арыштам за арганізацыю мітынгу, прысвечанага 50-ым угодкам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, 17 снежня далі прэс-канферэнцыю.**

Нядаўнія арыштанты распавялі пра тое, як ў камеры ішло змаганне за ўласныя правы. Юрый Хадыка і Алесь Бяляцкі напісалі заяву адміністрацыі, у якой гаварылася: *«Утрыманне ў размеркавальніку нават горшае за ўмовы ў следчым ізалятары, бо зняволеныя не маюць права на прагулкі, вынікам чаго з'яўляецца развіццё ўсялякіх хваробаў, у тым ліку нервовых і псіхічных».* Заяву падпісалі ўсе, хто сядзеў у камеры № 19. На наступны дзень зняволеных гэтай камеры вывелі на прагулку.

Валерый Шчукін, які адбываў 15-сутачны тэрмін, напісаў заяву на імя начальніка на правядзенне пікету ў двары гэтай установы супраць мышэй, якія апанавалі спецразмеркавальнік. Адміністрацыя адрэагавала на гэтую гратэскную заяву самым сур'ёзным чынам: на наступны дзень супрацоўнікі санэпідэмстанцыі патруцілі мышэй.

**Паліна КАЧАТКОВА**

# Выбух на 67 мільярдаў

**На Новалукомльскай электрастанцыі (Віцебская вобласць) у мінулую нядзелю адбылося надзвычайнае здарэнне.**

Як нам паведамілі ў рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны, з-за парушэння тэхнікі эксплуатацыі выбухнуў кацёл коштам 67 мільярдаў рублёў. На шчасце, ніхто не пацярпеў. Перапынкаў у падачы электраэнергіі не было.

**М.К.**

# Дзеці задыхнуліся

**Трое дзяцей задыхнуліся ад дыму ў вёсцы Ходараў Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці.**

Маці сышла зранку на ферму, не заўважыўшы, што тлее коўдра і матрац. Дзеці, два хлопчыкі 4 гадоў і іх 2-гадовая сястра, спалі. Калі маці вярнулася, дапамагчы ўжо было немагчыма.

**Іван ЗАСАДА**

# Міліцыя не спіць у шапку

**Гродзенская міліцыя з 10 снежня працуе ва ўзмоцненым рэжыме, які працягнецца да праваслаўных Калядаў.**

Мэта — зменшыць крымінагенную сітуацыю ў святочныя дні. Дзеля гэтага міліцыя прапануе гарадскім уладам забараніць з Новага года гандаль спіртнымі напоямі ў месцах правядзення масавых мерапрыемстваў і гулянняў. Патрабуецца, на думку міліцыі, таксама абмежаваць працу дыскатэк і іншых месцаў адпачынку моладзі ў начны час.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Удакладненне*

У мінулым нумары НАВІНЫ апублікавалі інфармацыю пра арышт намесніка кіраўніка адміністрацыі Фрунзенскага раёна г.Мінска, які быў затрыманы ў момант атрымання хабару. Паведамляючы пра суму, мы дапусцілі недакладнасць. У нас называлася лічба 400 долараў, тым часам у міліцэйскіх пратаколах значыцца 100 долараў хабару. Прыносім прабачэнне нашым чытачам за недакладную інфармацыю.

**РЭДАКЦЫЯ**

# «Пушча» – за валюту

**Пасля Новага года цыгарэты Гродзенскай тытунёвай фабрыкі ў яе фірмовай краме ў Гродне будуць прадавацца толькі за валюту. Таксама за валюту іх можна будзе набываць па безнаяўным разліку.**

Гэта выклікана тым, што фабрыка не можа набыць тытунь, не маючы валюты. У сувязі з гэтым апошнім часам вытворчасці былі загружаны прыблізна на чвэрць. Фабрыка запазычыла сваім пастаўшчыкам каля 6 мільёнаў долараў. Бартэр у гэтым выпадку немагчымы, бо заходніх партнёраў не цікавяць гродзенскія цыгарэты «Пушча» або «Мінск».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Бывай, «стаканчык»!

**Мінскі гарвыканкам забараніў продаж алкагольнай прадукцыі імпартнай і айчыннай вытворчасці ў полістыролавай і іншай пластмасавай тары.**

Забарона тлумачыцца частымі выпадкамі ўжывання спіртнога непаўналетнімі, а таксама неабходнасцю паляпшэння санітарнага стану горада.

*БелаПАН*

*КАДРЫ*



# В прокуратуре что-то сгорело

*Век свободы не видать*

На территории Партизанского района г.Минска 15 декабря кооперативом «Уют» на основании заключенного договора со ЖРЭО производились работы по обрезке деревьев. Производство работ в непосредственной близости от ЛЭП согласовано не было. Машинист автокрана при отсутствии соответствующего допуска совершил подъем двоих рабочих, которые приступили к обрезке деревьев.

В ходе работ одна ветка упала на воздушную ЛЭП, произошло замыкание проводов, в результате чего напряжение в сети повысилось до 380 вольт. Как сообщила пресс-служба Генеральной прокуратуры, это привело к «страшным последствиям»: в 8 домах, а также в прокуратуре Партизанского района пришли в негодность электробытовые приборы и оргтехника (какой ужас?! — **Ред.**), в трех квартирах возник пожар.

По предварительным данным, которые опубликовал в газете «Республика» чиновник Генпрокуратуры Алексей Таранов, *«у граждан и организаций повреждено 18 телевизоров, 14 холодильников, 5 видеомагнитофонов, компьютер, СВЧ-печи и т.д. Во время возникшего пожара погиб инвалид I группы В.Атесленко».*

По данному факту прокуратурой Партизанского района возбуждено уголовное дело и проводится расследование. Прокуратурой района задержаны 4 человека, трое из которых — руководители кооператива «Уют». Какая необходимость была в их задержании — не сообщается.

*Подготовил*
**Андрей ПРОКОПОВИЧ**

# Домашу не хапіла двух галасоў

**Сесія Гродзенскага гарадскога Савета паспрабавала абараніць Сямёна Домаша — дэпутата абласнога Савета і апазіцыйнага палітыка, якога ўлады высяляюць з дома. Спроба аказалася няўдалай, хаця большасць дэпутатаў прагаласавалі ў падтрымку С.Домаша *(на здымку)*.**



Гарсавет быў абраны яшчэ «на хвалі дэмакратызацыі», працуе восем гадоў і імкнецца дзейнічаць незалежна, не быць прыдаткам да гарвыканкама. Дэпутаты намерваліся скасаваць рашэнне гарадской вертыкалі аб перадачы дома, які належыць С.Домашу, у камунальную маёмасць. Каб гэта ўдалося, не было падставаў дамагацца прымусовага высялення праз суд.

Аднак спачатку адбылася сапраўдная баталія паміж дэпутатамі і старшынёй Савета адстаўным генералам міліцыі Фёдарам Гудзеем. Ён спрабаваў схіліць іх, каб яны прынялі выгадную для выканаўчай улады фармулёўку рашэння. Маўляў, хай спачатку ў справе Домаша да канца разбярэцца суд, а мы потым прымем рашэнне, адпаведнае судоваму. У дэпутатаў гэта выклікала абурэнне. Большасцю галасоў яны далі магчымасць выступіць самому С. Домашу, які расказаў, што судом, наадварот, прыпынены разбор справы якраз да часу вырашэння яго пытання на сесіі. Сямён Домаш сказаў таксама дэпутатам, што ўладам добра вядома: ён нічога не парушыў пры набыцці дома, які з'яўляецца яго ўласнасцю, і добраахвотна не пакіне яго.

Затым выступіў Віктар Кудравец, былы старшыня гарсавета. Ён заклікаў сваіх калегаў паставіць кропку ў гэтай справе, «шытай белымі ніткамі». *«Прэзідэнта краіны* (высяленне пачалося з падачы самога А. Лукашэнкі. — **С.А.**), — сказаў ён, — *увялі ў зман. Але захопу дома ці падтасоўкі дакументаў не было. Давайце ж да канца выявім сваю пачцівасць і грамадзянскую пазіцыю»,* — закончыў ён.

Адбылося тайнае галасаванне. Для прыняцця рашэння ў падтрымку С.Домаша патрэбна было 48 галасоў. «За» прагаласавалі 46 дэпутатаў, два сапсавалі свае бюлетэні, а яшчэ тры бюлетэні не былі ўкінутыя ў скрыньку. Супраць было толькі 6 чалавек. Не зважаючы на няўдачу, С.Домаш застаўся збольшага задаволены. Ён сказаў, што дэпутаты гарсавета аказалі яму вялікую маральную падтрымку. Таксама ён цэніць тое, што большасць не баялася адкрыта галасаваць супраць фармулёўкі рашэння, якое навязвала начальства. Ім таксама падкрэслена, што генерал Гудзей, калі быў начальнікам УУС, асабіста падпісаў хадайніцтва аб тым, каб яму — С. Домашу, у той час кіраўніку абласной улады, быў выдзелены асобны дом, у якім можна размясціць ахову. Паколькі папярэдні старшыня аблвыканкама не меў ахоўнікаў і загінуў ад рукі кілера.

Для ўдзельнікаў сесіі ў буфеце прадавалі дэфіцыт: цыгарэты «Астра» па 19.900, «Гродна» — па 34.400 і «Мінск» — 59 тысяч 100 рублёў за пачак. Так што начальства дало ўпартым дэпутатам прыкурыць і ў прамым, і ў пераносным сэнсе.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## *Лісты ў рэдакцыю*

**ПОСТОЯННО ЧИТАЮ ВАШУ ГАЗЕТУ**, она мне нравится. Но в последнее время вы почему-то ничего не пишете о жене нашего президента. Скажите, неужели это правда, что наш президент со своей женой вместе не живет, говорят, она осталась на его прежнем хозяйстве. Слушайте, вот это да, так может пора и за репутацию нашего президента взяться да постыдить его. А то все только про Клинтона и пишут.

Это же возмутительно, что наш президент жену в Минск не берет. А ведь один он тоже столько лет не живет, значит... Так что же это за президент, для которого семья ничего не значит. Может вы, как газета независимая, постыдите его. Хочется, чтобы страной порядочные люди управляли.

**Татьяна СТАСЕВИЧ,**
*г.Витебск*

**З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ АМЕРЫКАНЦА**, народ Беларусі — дзіўны народ. Яны скардзяцца, што ў іх адабралі свабоду, але яны адмаўляюцца ад свабоды, лёгка «здаюць» сваю канстытуцыю, законы і сцяг. Яны скардзяцца на нізкія заробкі, але заўсёды знаходзяць дастаткова грошай на пляшку гарэлкі, каб напіцца. Я не бачу ніякой замежнай арміі, якая хацела б напасці на Беларусь, ніякіх танкаў, ніякіх прыкметаў пагрозы з-за межаў краіны — але на вуліцах поўна салдатаў, паліцыі, людзей у форме ўсіх відаў. Ці можа тут ідзе нейкая вайна, якую я не бачу? Сапраўды, калі глядзець вачыма замежніка, беларусы — гэта вельмі дзіўныя людзі!

**Дональд М.КОДЭР,**
*доктар медыцыны*
*(Друкуецца ў перакладзе з англійскай мовы).*

**У НАС У ЖОДЗІНА**, як і паўсюль, няма ні масла, ні яек, ні смятаны. Мясцовая вертыкаль заклікае людзей пацярпець да вясны, бо цяпер, маўляў, прадуктамі даводзіцца расплачвацца за расійскі газ. Але як дажыць да вясны, есці ж хочацца і зімой?

**Фёдар ДАРЭНКА,**
*г.Жодзіна*

***Шаноўныя чытачы! Мы зацікаўленыя ў тым, каб газета НАВІНЫ максімальна адпавядала патрэбам нашых чытачоў. Якой павінна быць газета з Вашага пункту гледжання? Што Вас цікавіць у першую чаргу? Якой інфармацыі ў нас не хапае? Мы чакаем Вашых адказаў на гэтыя і іншыя пытанні. Давайце разам зробім газету лепшай.***

***Рэдакцыя***

# Якой павінна быць газета?

## *Нас цікавіць думка кожнага чытача*

**1. Якім чынам Вы звычайна атрымліваеце НАВІНЫ?**
- ☐ па індывідуальнай падпісцы
- ☐ выпісвае Ваша прадпрыемства
- ☐ купляеце ў кіёску
- ☐ набываеце ў прыватных распаўсюднікаў
- ☐ атрымліваеце ад сваякоў, знаёмых
- ☐ іншым чынам (якім?)

**2. Як Вы чытаеце газету?**
***(калі ласка, пазначце толькі адзін адказ)***
- ☐ чытаеце ўсе тэксты
- ☐ чытаеце большасць тэкстаў
- ☐ чытаеце толькі асобныя артыкулы
- ☐ толькі праглядаеце

**3. Колькі чалавек разам з Вамі чытаюць нумар газеты?**
- ☐ толькі Вы самі
- ☐ яшчэ ........ чалавек

**4. Чаму Вы чытаеце НАВІНЫ?**
- ☐ каб ведаць пра падзеі ў Беларусі
- ☐ каб ведаць пра падзеі ў свеце
- ☐ бо гэта незалежнае ад уладаў выданне
- ☐ газета мне проста цікавая
- ☐ чытаю па звычцы
- ☐ па іншых прычынах (якіх?)

| 5. Якой інфармацыі ў газеце шмат, а якой не хапае? | Шмат | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Палітычныя навіны і каментары | | | |
| Эканамічныя навіны і каментары | | | |
| Інфармацыя з рэгіёнаў Беларусі | | | |
| Аналітычныя матэрыялы | | | |
| Міжнародная інфармацыя | | | |
| Інфармацыя пра Расію | | | |
| Інфармацыя пра краіны СНД | | | |

| Якой інфармацыі ў газеце шмат, а якой не хапае? | Шмат | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Гісторыя | | | |
| Культура | | | |
| Рэлігійная тэматыка | | | |
| Свецкая хроніка | | | |
| Інтэрв'ю з вядомымі людзьмі | | | |
| Спорт | | | |
| Аўтамабілі | | | |
| Камп'ютэры, Інтэрнэт | | | |
| Здарэнні, крымінал | | | |
| Лісты чытачоў | | | |
| Ілюстрацыі | | | |

**6. На якія яшчэ тэмы мала інфармацыі ў газеце?** ***(назавіце)***

______________________

**7. Якія яшчэ газеты Вы чытаеце рэгулярна?**

______________________

**Адкажыце, калі ласка, на некалькі пытанняў пра сябе:**

**8. Ваш пол**
- ☐ Мужчына
- ☐ Жанчына

**9. Колькі Вам гадоў?** ____________

**10. Якая ў Вас адукацыя?**
- ☐ пачатковая
- ☐ сярэдняя
- ☐ няскончаная вышэйшая
- ☐ вышэйшая тэхнічная
- ☐ вышэйшая гуманітарная

**11. Ваш цяперашні занятак**
- ☐ вучань, студэнт
- ☐ дзяржаўны служачы
- ☐ работнік сферы адукацыі, культуры, навукі, медыцыны, права
- ☐ вайсковец, супрацоўнік праваахоўных органаў
- ☐ уладальнік ці саўладальнік фірмы, індывідуальны бізнес
- ☐ работнік фінансавай сферы
- ☐ работнік сферы гандлю і паслугаў
- ☐ работнік транспарту, сувязі
- ☐ работнік фізічнай працы
- ☐ сельгасработнік, фермер
- ☐ пенсіянер
- ☐ хатняя гаспадыня
- ☐ не працую
- ☐ іншае

**12. Якую пасаду Вы займаеце?** ***(па жаданні)***

______________________

**13. Якія палітычныя партыі Вы падтрымліваеце?**

______________________

**14. Да якой катэгорыі Вы сябе адносіце:**
- ☐ высоказабяспечаныя
- ☐ забяспечаныя
- ☐ сярэднезабяспечаныя
- ☐ малазабяспечаныя

**15. Як часта Вы бываеце за мяжой?**

______________________

**16. Ці ёсць у Вас:**
- ☐ аўтамабіль
- ☐ камп'ютэр (на працы ці дома?)
- ☐ відэамагнітафон
- ☐ доступ у Інтэрнэт

**Шаноўныя чытачы! Запоўніўшы анкету, укладзіце яе ў паштовую капэрту і адпраўце на наш новы паштовы адрас: 220034, г.Мінск, вул. Змітрака Бядулі, 6-47. Рэдакцыя газеты НАВІНЫ.**

*Беларусь—Россия*

# Сплошной абсурд

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Новый приступ интеграции, как обычно, завершился множеством помпезных слов. После встреч с Борисом Ельциным и Евгением Примаковым в Москве, Александр Лукашенко поведал, что Союз Беларуси и России ожидают некие кардинальные сдвиги. Кокетничая, как девица, Лукашенко отказался сообщить что-либо конкретно по существу, однако посулил: еще до Нового года «мы это положим на стол». Здесь мне вспомнились слова из песенки Ю.Кима («лирический герой» песни преподавал историю КПСС): «А потом возьму аргумент свой единственный — Выну и на стол положу».

Такая параллель уместна в любом случае: и в том, если «кардинальные сдвиги» окажутся, как обычно, бурей в стакане воды, и в том, если Беларусь и Россию действительно начнут кардинально сближать. Дай Бог, чтобы новогодний «подарочек» усатого Деда Мороза оказался пустышкой. Ибо в том, что намёки А.Лукашенко так или иначе касались объединения в одно государство, сомневаться не приходится.

Представляется, однако, что на сегодняшний день действия по объединению большого энтузиазма у населения Беларуси не вызовут. Такое объединение для Беларуси всегда было вещью бессмысленной — но теперь абсурдность этого стала очевидной. Возьмем для примера несколько «маленьких абсурдиков» (хотя на самом-то деле они совсем не такие уж и маленькие), из которых слагается российско-белорусская интеграция.

**Абсурд первый** можно выразить в трех словах: куда мы лезем? В России — кризис. По российским телеканалам мы видим людей, которые ложатся спать в телогрейках, готовят обед на керосинках и, как в старину, беседуют при свечах и лучинах (нет ни света, ни газа, ни тепла). Кто будет церемониться с нововявленным отсталым регионом? Неужели ни бастующие рабочие, ни голодающие (до летального исхода) учителя, ни разгул криминала не показывают со всей ясностью, что в России отнюдь не «намазано мёдом»?

**Абсурд второй** является продолжением первого. И сам Лукашенко, и другие чиновники, и пропагандистская машина режима много раз проводили нехитрую мыслишку: наши власти не виноваты в белорусском кризисе, он — продолжение кризиса российского. Да, допустим, продолжение. А кто в такой степени завязал белорусскую экономику на Россию, как не нынешние власти? Кто сделал все для того, чтобы любые пертурбации в соседней стране со страшной силой отражались на нас? Именно правящий режим — и бездумной ориентацией на Россию, и собственной экономической политикой — привел Беларусь к кризису. Методами «рыночного социализма» кризис не излечивается. Так надо не сдавать Беларусь России, а уходить в отставку. Попытка же выйти из кризиса путем присоединения к другому кризису — бессмысленна по определению. Это можно расценивать только как способ избежать ответственности.

**Абсурд третий:** объявлено о грядущем переходе на единую с Россией валюту. «Призрак российского рубля» бродит по Беларуси давно, еще со времен В.Кебича. Помнится, именно объединение денежных систем стало поводом, который выбрал Е.Гайдар, чтобы уйти в отставку, — а С.Богданкевич, тогдашний председатель нашего Нацбанка, сказал этому объединению твердое «нет». И именно Богданкевичу удалось сделать белорусский рубль более-менее устойчивым: и зарплаты выплачивались, и по отношению к доллару «зайчик» не скакал. Чем же теперь вызвана необходимость отказа от собственной валюты? Тем, что Нацбанк возглавляет сельский строитель (т.е. «пироги печет сапожник»), а все финансовые проблемы решаются с помощью печатного станка? Так не лучше ли, опять же, заменить не валюту, а руководство страны?

Ведь российских рублей и в самой России-то не хватает. Доля «бюджетников» в Беларуси значительно выше, чем в России. Интересно, по сколько месяцев наши граждане не будут получать зарплату? К тому же после кризиса российский рубль перестал быть стабильной денежной единицей. Пытаться распространить его на свою территорию — нонсенс.

**Абсурд четвертый** заключается в том, что сама Россия трещит по швам. Распадется она окончательно или нет — Бог весть, но регионы все больше автономизируются, уходят из-под руки федерального центра. Беларусь же, получается, наоборот, лезет под эту руку. Какой смысл интегрироваться с Россией, коль сама Россия дезинтегрируется?

Чеченцы с оружием в руках тысячами гибли за независимость от России. Курды десятки лет борются за свою государственность. Таких примеров в истории множество. А вот в Беларуси первым президентом государства стал человек, который делает все для того, чтобы это государство уничтожить. В этом и состоит **абсурд пятый**.

Распространенный довод сторонников интеграции: вся Европа, мол, интегрируется — так чем мы хуже. Аргумент, в общем, хороший, вот только из него почему-то делаются абсурдные выводы. Верно, Европа интегрируется. Вот и давайте, не теряя государственной независимости, интегрироваться с благополучной цивилизованной Европой. И не надо говорить, что мы там никому не нужны. С Лукашенко во главе, конечно, не нужны. А как демократическая страна — нужны. Точно так же, как «пригодились» наши соседи — Польша, Литва, Латвия, Украина. Подменять же европейскую интеграцию «интеграцией для бедных» с нищей отсталой Россией — это **абсурд шестой**.

Список можно продолжать и продолжать. Но и так ясно, что интеграция с Россией, об очередном этапе которой радостно протрубили официозные СМИ, представляет собою сплошной абсурд. Если же дело дойдет до государственного объединения, то это будет абсурд ужасающий, который вообще непонятно чем кончится. Ничем хорошим — это единственное, что можно предсказать с уверенностью.

Впрочем, сам Лукашенко заявил, что он в России не нужен ни «левым», ни «правым». Это совершенно верно. И в этом — залог того, что до тех пор, пока в России не произойдет послеельцинский передел власти, объединение с Беларусью маловероятно. А после того, как этот передел произойдет, такое объединение вряд ли понадобится Лукашенко.



*Во время пребывания в Москве президент А.Лукашенко успел даже в хоккей поиграть.*

## Борис, помоги!

Во время недавних переговоров с Борисом Ельциным Александр Лукашенко среди прочего просил российского президента наладить сотрудничество правоохранительных органов России и Беларуси по отслеживанию белорусских оппозиционеров, находящихся или приезжающих в Москву.

Об этом сообщает газета «Новыя известия» со ссылкой на хорошо информированные источники. Лукашенко мотивировал свою просьбу тем, что его белорусские оппоненты, мол, являются противниками Союза, а значит, и российских интересов.

**Б.П.**



*ДАГЕРРОТИП*

# Наши «мозги» в Польше

**Семен БУКЧИН**

Случайная встреча в купе поезда Варшава–Минск. Мой попутчик — бывший доцент Белорусской политехнической академии. Специалист по обработке металлов. Не без гордости показывает мне в своем паспорте «визу побытову», дающую право жить и работать в Польше. Он уже больше года преподает в одном из престижных технических вузов польской столицы. И весьма доволен своим положением. Отлично освоил язык... Семья в Минске, раз в три месяца он навещает родных .

— Но ведь заработок в тысячу двести злотых (это около 350 долларов) не так велик, если учитывать, что вам нужно платить за квартиру, покупать продукты... Ну и прочие расходы... Скромная квартирка на окраине Варшавы наверняка стоит не меньше трехсот баксов...

Мой новый знакомый скромно улыбается:

— Извините, но сегодня в Польше многие работают в двух, а то и в трех местах. Я, к примеру, являюсь консультантом в одном из министерств и еще в двух иностранных фирмах. Так что жаловаться грех...

Я поинтересовался, встречает ли он в Польше коллег из своего и других белорусских вузов.

— А как же? Есть здесь наши, и тоже неплохо устроены. Я вам так скажу: зачем ехать куда-то далеко, вообще эмигрировать, когда рядом Польша, страна с динамично развивающейся экономикой? Люди с мозгами здесь очень нужны.

Я слушал моего попутчика и припоминал еще одну недавнюю встречу с земляком. Я спускался по улице Тамка, когда рядом притормозил «Мерседес». Дверь распахнулась и последовала команда: «Быстро садись!» Это был знакомый «технарь» из Академии наук Беларуси. Его «польская история» выглядит фантастично. Потерпев неудачу на ниве лукашенковского «рыночного социализма», он решил заняться бизнесом в Польше. Для начала развелся с женой и вступил в фиктивный брак с пани, старшей его на пятнадцать лет. Получив «карту сталего побыту» и отблагодарив пани, снова соединился с прежней супругой. И ринулся в пучины польского предпринимательства. Где-то что-то покупал, продавал... А когда накопил денег, выстроил по собственному проекту прекрасный дом в Константине — престижнейшем пригороде Варшавы, где селятся и строятся «новые поляки». Сейчас он ехал его продавать.

Когда мы приехали в Константин, я был поражен. Это не было грубое, сработанное «под замок» сооружение, вроде тех, что наставили вокруг Минска наши нувориши. Изящная вилла, на которую хотелось смотреть и смотреть. «Технарь» расписал свое сокровище в Интернете, и вот приехал богатющий немец, покупает, не торгуясь. А с другими покупателями, тоже нашедшими «технаря« по Интернету, — голландцем и американцем — он уже заключает договора на постройку похожих вилл в других местах Польши. Создает свою строительную фирму. А сам с женой арендует небольшую двухкомнатную квартиру.

— Конечно, я мог бы и сам жить в этом прекрасном доме в Константине, — не без грусти говорил он. — Ведь строил его поначалу для себя... Но знаешь — мне интересно строить, заниматься строительным бизнесом.

Вот и думается: почему талантливый гражданин Беларуси должен вступать в фиктивный брак в Польше, чтобы проявить свой талант, утвердить себя как личность? Наивный, конечно, вопрос... Поскольку у нас личности не нужны. Есть место только для рабов с протянутой за подаянием рукой.

Кстати, утвердиться в Польше иностранцу тоже очень непросто. В последнее время поляки ужесточили охрану своего рынка рабочих мест, поскольку немало своих безработных. Тем не менее, по данным официальной статистики, в Польше сегодня трудятся нелегально, «на чарно», 150 тысяч иностранцев. А разрешения на работу в первом полугодии получили около восьми тысяч иностранных граждан. На первом месте, между прочим, вьетнамцы — 940. Невероятно умеющий приспосабливаться в чужих условиях народ. Польская молодежь постоянно толпится возле их будочек с восточной кухней. На втором месте украинцы — 904. На третьем, не удивляйтесь, — немцы (545). Далее идут граждане России — 424. И уже за ними белорусы — 334. Не так уж и много... Но если это триста специалистов, вроде того доцента из БПА или академического «технаря»? Другим ведь официального разрешения не дают. И это только за полгода...

Проблема не новая, конечно. Утечка мозгов. Впрочем, можно и по-другому посмотреть на это дело. Процветающая лукашенковская Беларусь помогает слабой и несчастной Польше кадрами... Тогда вроде все правильно.

# Бывший премьер пока на свободе

**Бывший премьер-министр Украины Павел Лазаренко, обвиняемый в отмывании денег, был выпущен 18 декабря из женевской тюрьмы под залог в 4 млн. швейцарских франков (около 3 млн. долларов).**



19 декабря Лазаренко вернулся на родину, поскольку его никак не ограничили в передвижении.

Обвинение в отмывании денег Лазаренко предъявили 4 декабря, спустя два дня после его въезда на территорию Швейцарии и ареста. *«Речь идет о переводах в швейцарские банки денег, имеющих преступное происхождение»,* — сообщил генеральный прокурор кантона Женева Бернар Бертосса.

Швейцарское расследование было инициировано генпрокуратурой Украины, которая еще в прошлом году возбудила уголовное дело по подозрению Лазаренко и его ближайшего соратника по политической партии «Громада» Мыколы Агафонова в хищении и переводе в Швейцарию 20 млн. долларов. С февраля 1997 года украинские прокуроры направили швейцарским коллегам около 20 поручений о проверке происхождения подозрительных банковских счетов, имеющих отношение к Лазаренко. В результате в октябре нынешнего года в ряде швейцарских банков были заморожены некие «украинские» счета; общая сумма находящихся на них средств превысила 40 млн. долларов. Арест Лазаренко стал вполне логичным шагом швейцарской прокуратуры. Причем бывший премьер помог следователям — он явился в Швейцарию с паспортом гражданина Панамы (говорят, чтобы попытаться спасти уцелевшие счета).

Генеральная прокуратура Украины в понедельник, 21 декабря, внесла на рассмотрение Верховной Рады Украины представления с просьбой дать согласие на привлечение к уголовной ответственности и на арест народного депутата Павла Лазаренко.

Об этом сообщил журналистам Генеральный прокурор Украины Михаил Потебенько. Прокуратура инкриминирует бывшему премьеру «непосредственную причастность к хищению государственных средств» и «незаконное открытие и использование валютных счетов за границей». Согласно Уголовному кодексу Украины, за отмеченные преступления предусмотрено наказание в виде лишения свободы сроком до 15 лет.

**Б.П.**

*Взгляд из Москвы*

# Что хотели братья-славяне?

Сразу две команды политиков из братских славянских республик посетили Москву на минувшей неделе. Делегация украинского парламента, возглавляемая спикером Александром Ткаченко, убеждала российских коллег ратифицировать «большой» договор, подписанный президентами двух стран еще в мае 1997 года. А гости из Минска во главе с Александром Лукашенко, как выразился белорусский президент, обсуждали с российскими политиками вопросы *«глубинного продвижения наших народов к единению»*.

Насколько успешным оказался украинский десант, выяснится 25 декабря, когда в Госдуме будет обсуждаться вопрос о ратификации. Весьма вероятно, что думцы в который раз отложат это дело. Их вряд ли убедили слова украинского спикера, который заявил: *«Менталитет народов наших стран так переплелся, что их невозможно разделить»*. Но российские депутаты считают, что хотя бы Черноморский флот разделить можно, и именно эта нерешенная проблема мешает ратификации «большого» договора.

У Александра Лукашенко дружба с Россией ладится лучше. Он утверждает, что все экономические проблемы, касающиеся двух стран, уже решены и остается лишь «сделать очередные глубокие шаги» к политическому союзу. О направлении шагов сказано туманно. Лукашенко поведал лишь, что до конца года снова встретится с Борисом Ельциным, после чего и обнародует детали своих новых инициатив. А пока лишь намекнул, что один из обсуждавшихся вопросов касался того, *«как сделать легитимным парламент союзного государства»*. Для Лукашенко это особенно актуально, если учесть, что после республиканского референдума 1996 года белорусский парламент не признают легитимным в большинстве европейских стран.

Впрочем, оптимизм Лукашенко в части экономических связей чрезмерен. Товарооборот между двумя странами за последний год снизился почти на 20%, причем Беларусь впервые получила отрицательное сальдо. Минск готов вернуться к общей валюте, но к этому не готов Центробанк России. Переплетение менталитетов здесь состоит пока только в углублении общего кризиса и расширении взаимного бартера.

*(По материалам журнала «Эксперт», № 48 от 21 декабря)*

*Россия*

**137 ПАРТИЙ и общественных объединений прошли регистрацию в министерстве юстиции России к 19 декабря этого года, тем самым получив право участвовать в парламентских выборах в 1999 году.**

**УХОДЯЩИЙ ГОД стал рекордным по числу выданных лицензий на теле- и радиовещание. Их число уже составило 620. Как известно, в начале 90-х годов российский зритель мог принимать только два телеканала, а сейчас в любом регионе не менее 8-10 телепрограмм. При этом государственное телевидение составляет менее 10-й части от общего числа вещателей.**

**В БЛИЖАЙШИЕ год-два Китай и Индия готовы закупить до 200 российских самолетов, что принесет в государственную казну от 8 до 10 млрд. долл., заявил вчера первый заместитель министра торговли России Игорь Митрофанов.**

# Белорусы – национальное меньшинство в собственной стране

*Европа и языки национальных меньшинств*

15 декабря в Совете Европы состоялась конференция, посвящённая защите и распространению языков национальных меньшинств. На конференции обсуждался процесс ратификации Европейской Хартии региональных языков и языков национальных меньшинств.

Хартия вступила в силу 1 марта 1998 г. и на сегодня ратифицирована восемью странами Совета Европы ( в том числе Украиной ). Правовой инструментарий Хартии гарантирует защиту и распространение языков национальных меньшинств посредством их использования в образовательных учреждениях, средствах массовой информации, юридической, экономической, административной и общественной жизни, обеспечивая тем самым сохранение и преумножение богатства культурного европейского достояния.

В то же самое время в географическом центре Европы доблестное правительство Республики Беларусь ведёт отчаянную борьбу за уничтожение официального белорусского языка, проводя политику его вытеснения из всех сфер общественной жизни. Увы, ни для кого не секрет, что политика правящих кругов Беларуси копирует европейскую с точностью до наоборот. Если Европа процветает, повышая жизненный уровень населения, то белорусам обязательно нужно выложить зубы на полку; если права и свободы человека в Европе считают неприкосновенными святынями, то белорусу надо очень крепко держать язык за зубами, ибо выбьют не только зубы; если Европа защищает региональные языки, на которых говорит всего 5-10 тысяч человек, то язык 10-миллионной белорусской нации хоронит родное правительство.

Ирония судьбы, но официальный язык Беларуси нуждается в защите гораздо больше, чем язык национального меньшинства, скажем, в Швейцарии. Официальный статус любого языка естественно предполагает его широкое применение во всех сферах общественной жизни в любой нормальной стране. Данное Хартией юридическое определение относит к языку национальных меньшинств *«неофициальный язык, традиционно практикуемый в государстве его собственными гражданами, численность которых меньше остального населения государства»*. Кто бы мог подумать, что 75% белорусов и есть национальное меньшинство в собственной стране.

**Максим ПЕТРОВСКИЙ**

*Взгляд с Запада*

# Наследие Ельцина

Среди разработчиков внешней политики США бытует мнение, что история отведет Борису Ельцину хорошее место. Западные стратеги воспринимают Ельцина как того человека, который забрался на танк в 1991 году, победил на свободных и демократических выборах — в России! — в 1996 году. Ему теперь осталось закрепить свое наследие, обеспечить президентские выборы в 2000 году и затем спокойно оставить свой пост. Как считают эти наблюдатели, проблемы правления Ельцина — коррупция, бесконечный экономический спад, все более неловкие попытки скрыть его хронические болезни — со временем будут забыты.

В России мало кто разделяет это мнение. Для России и Бориса Ельцина 1998 год был плохим годом. Действительно очень плохим. Валюта и банковская система рухнули, страна отказалась платить по внутренним и внешним долгам, темпы инфляции быстро увеличиваются. Тем не менее ни разу Ельцин, гарант российской демократии, не работал в Кремле более трех недель подряд. Когда он все же появлялся, то окружающие его люди мечтали, чтобы лучше он не появлялся.

Возможно, как уверяют оптимисты, Россия не находится на пути сползания к анархии, бунту и авторитаризму, чего опасаются многие внешние наблюдатели. Но страна, возглавляемая Борисом Ельциным, создает трудности и дает течь практически повсеместно. Во многих других странах президент уже бежал бы из страны или висел бы на фонарном столбе. Но в России от этого только что отошли. Большинство населения бедно и устало. Русские только мечтают пережить зиму (особенно эту). Семь десятилетий жизни при коммунизме вытравили практически всю организованную политическую злобу из российской системы. Борис Ельцин должен проявить хотя бы достаточную мудрость, чтобы быть благодарным за это.

*Журнал Newsweek (США)*

*Литва*

# Синдром Клинтона

**Под аплодисменты и улыбки литовских парламентариев был принят закон о равных правах мужчин и женщин, включающий в себя понятие сексуальных домогательств. Закон вступает в силу 1 марта, так что любителям служебных романов придется поспешить.**

С наступлением весны влюбляться и реализовывать свои сексуальные фантазии придется с умом и осторожно. В тюрьму за это не посадят, однако штраф в размере от 25 до 1.000 *USD* вполне реален.

Закон разработан в соответствии с евростандартами, надзор за его выполнением будут осуществлять так называемые контролеры равных прав мужчин и женщин. На практике это означает, что лицо, подвергшееся дискриминации по половому признаку либо сексуальному домогательству, имеет право обратиться к контролеру. Последний, изучив представленные жертвой материалы и доказательства, может отбросить жалобу как несостоятельную (ну подумаешь, подержался за коленку), передать дело следственным органам или применить административное взыскание, достигающее суммы в 1 тысячу долларов.

Слуги закона договорились: сексуальным домогательством считать оскорбляющее поведение сексуального характера, выраженное словами или действиями в отношении человека, с которым домогающегося связывают служебные или деловые отношения.

Хотя закон был встречен овациями, единодушия у парламентариев, среди которых большинство все же мужчины, не было. Особенно горячился один христианский демократ, который считает, что Сейм *«увлекся флиртом и салонными интригами»*. Любопытно, что уважаемые в обществе депутаты назвали новый закон *«первым правовым актом, когда и женщина признана человеком»*.

**Жанна СКРИПОВА**

